тан В. Чабатарэвіч, атрымаў часовае звальненьне ад сваіх абавязкаў. Месца ягонае падчас адступленьня школы заняў Віталі Мікула. Школа накіравалася пешым маршам у Вільню, дзе была заладаваная на чыгуначны транспарт для далейшае эвакуацыі.

Загадам вайсковага камандаваньня нямецкае арміі ўсе вайсковыя фармацыі із славянскім складам накіроўваліся ў невялікі нямецкі гарадок Эльбінг, у Ўсходняй Прусіі. Накіраваная туды была й беларуская афіцэрская школа БКА. У Эльбінг трапілі й іншыя вайсковыя злучэньні, і падвосень 1944-га году тут сабралася каля 10 тысячаў жаўнераў. Апынуліся тут і беларускія батальёны Самаахоўы, Беларускае Краёвае Абароны й паліцыйныя адзінкі. З гэтае разнастайнае грамады – ці хацеў хто ці не – Немцы сфармавалі неўзабаве гэтак званую 30-ую Дывізію СС. На камандзера Дывізіі быў вызначаны нямецкі палкоўнік Зіглінг. На агульным сходзе афіцэраў палкоўнік Зіглінг закрануў пытаньне, як назваць нова-сфармаваную вайсковую адзінку. Расейцы запрапанавалі назваць яе "30-ай Расейскай Дывізіяй СС". Раптам з натоўпу афіцэраў выступіў невялічкі, худы капітан. Гэта быў Віталі Мікула.

– Дывізія гэта можа называцца й расейскай – сказаў ён, – але беларускія жаўнеры ў ёй тады не застануцца. Беларускія жаўнеры жадаюць мець сваю незалежную вайсковую адзінку, на якую маюць поўнае права.

Пасьля неспадзяванага выступленьня Мікулы запанавала цішыня, але неўзабаве з групы расейскіх афіцэраў пачаліся крыкі: "скуль ён гэткі ўзяўся", "расчляніцелі" ды іншае. Палкоўнік Зіглінг рашуча суцішыў нездаволеных і заявіў, што дывізія ўсё-ж будзе названая 30-ай Расейскай Дывізіяй СС. Заява гэтая была вялікім ударам і па Мікулу, і па ўсіх кадэтах нашае афіцэрскае школы ды па беларускіх вайскоўцах наагул. Штаб БКА знаходзіўся ў гэным часе, як і ўся Беларуская Цэнтральная Рада, ужо ў Бэрліне. Немцы знарок не паведамілі ані беларускае камандаваньне, ані Раду аб пастанове ўлучыць беларускіх вайскоўцаў у склад расейскае дывізіі, баючыся прыкрасьцяў і пратэстаў. На ўсе пытаньні, нямецкія ўлады ў Бэрліне давалі нашым прадстаўнікам адно няістотныя, выкрутныя, а часта й цалкам хвальшывыя адказы.

Тымчасам, 30-ая Дывізія была сфармаваная так, як жадаў Зіглінг. Людзі былі памяшаныя, афіцэрская школа БКА прыдзеленая, як "20-ая рота", да 4-га палку. Капітан Мікула быў разлучаны із сваймі людзьмі й прызначаны ў зусім іншы полк на камандзера зьвязу. А ўвосені 1944-га году 30-ую Дывізію кінулі на захад, у Францыю.

Капітан Мікула і ўсе кадэты школы чуліся вельмі пакрыўджанымі. Ня толькі, што ад іх адабралі права быць асобнаю, беларускаю вайсковаю адзінкаю, але йпаслалі іх на заходні фронт змагацца з Французамі, Ангельцамі й Амэрыканцамі, якія ані ня былі іхнымі варагамі. Рэакцыя нашых людзей праявілася ў тым, што кадэты афіцэрскае школы пачалі масава пераходзіць да францускіх партызанаў, якія змагаліся зь нямецкім акупантам. Не ўдалося перайсьці да партызанаў адно капітану Мікулу: Немцы асабліва ня верылі яму й арганізавалі за ім адмысловае сачэньне. Пры першым-жа збройным сутыку 30-ае Дывізіі з войскам саюзьнікаў, Беларусы пачалі масава пераходзіць у палон. Бачачы ўсё гэта, нямецкае камандаваньне загадала зьняць дывізію з фронту. Тут, у франтавых тылох, пачаліся жорсткія рэпрэсіі. Шмат каго з нашых вайскоўцаў расстралялі, рэшту паслалі ў канцэнтрацыйныя лягеры, дзе таксама чакала іх загуба. Тады-ж загінуў і капітан Мікула. Апошнія весткі аб ім былі, быццам ён трапіў у канцэнтрацыйны лягер Дахаў, дзе неўзабаве й загінуў. Гэтак сьветчаць беларускія жаўнеры, што былі зь Мікулам у гэнай пачварнай 30-ай Дывізіі, і якім пашэнціла вырвацца зь яе жывымі. Але ніхто ня бачыў і не пасьветчыў аб апошніх часінах Мікулавага жыцьця, ні аб дакладнай даце ягонае мучаніцкае сьмерці.

Імя капітана Віталія Мікулы, аднак, ня будзе забытае. Яно ўвойдзе ў гісторыю нашага вызвольнага збройнага змаганьня побач зь імём Кастуся Каліноўскага ды іншымі нашымі змагарамі-мучанікамі.

Хай-жа будзе пашана й слава ягонай сьветлай памяці!

К. Юхневіч

## Ц Ё Т К А

(З цыклю: " Я, ці ад чаго пачаць" )

– Усе аднёс – не пабіў аніводнага?
– Але. Ніводнага.
– А чаму-ж упацелы ты?
– Я ня ведаю, мама.
– Калі што благога, ты ніколі ня ведаеш і не памятаеш.

Я нічога не адказваю. У душы пачуваюся вінным. Я пачынаю кеміць, як хлусіць. Мне шкада мамы. Памагаю ўсяляк у ейнай працы. Мой брат пакуль што ня ўсё разумее. Ён ня ўдасьць маме. Маленец. Самы запраўдны гныш. Перад тым, як вярнуцца дахаты, я крыху "пашкубатаў" яго. Ён плакаў. І вось цяпер мне шкада і яго і мамы. Яна жала аж да заходу сонца. Але як было калісьці, я ня чуў ейнага голасу ў сыпе разам з жанкамі. Між іншых галасоў жнеяў я пазнаваў мамін голас. Яны ўсе сьпявалі пра збожжа, пра няшчасную долю жняі, што найбольш турбавалася пра дакоры ад сьвякрыві, чымся пра поўны цяжкой працы дзень.

Я пачынаў чуцца гаспадаром. Мог улетку пазьней класьціся спаць. Але я мусіў тое-сёе рабіць – абавязкі будзённыя меў.

Таго вечара я загледзеўся Хведарам-палясоўшчыкам. Ён страляў па чаранках. Спалоханыя стрэлам, яны вылётвалі з узьбярэжных чаратоў і крыкліва ляцелі, блізу кранаючы вазёрную гладзіну, ужо асьвечаную вячорным сонцам. Яны ўзноў шпарка ўлётвалі ў гушчарную сьцінь узьбярэжжаў, але ніколі, дзе хмызоўе лазы, а ў чароты й трысьцёўе. Калі стрэл змаўкаў, шумнасьць вады каля грэблі шугала ў вячорную шугнасьць тады, бы шумлівы подзьмух ветру.

Надовечы Хведар даў мне дваццаць капеек за тое, што я даўжэй за ўсіх дзяцей пабыў пад вадой і з возера, падплываў, прынёс яму застрэленую чаранку.

–Ты якпаляўнічы сабака плаваеш,–сказаў ён мне.

І за гэтыя словы дваццаць капеек на яговых вачох я кінуў у вазёрны вір. Схопна ўзяў браtаву руку, пабег дадому. Мы абодвы спацелі ад бегу. Я з гордасьцяй аддаў маме грошы, атрыманыя ў сельпо за яйкі – падатак.

Я пачынаў любіць Хведара... і пагарджаць. Мама нічога не казала пра Хведаравы благасьці, каб калісьці асудзіць тату перад уладамі, але сам я адчуваў і разумеў гэта.

Брат мой падрос, ён ужо мог гаварыць, і яму, ня бачачы мамы цэлы дзень, жадалася пагаварыць зь ёй... Я павёў яго памагчы пазьбіраць яйкі з куросаньня.

– Не кажы маме пра Хведаравы дваццаць капеек, ато зноў наб'ю, і ня пойдзеш зы мной да ляда.

Ён паабяцаў. Мы лазілі па куросаньню, адкуль я ўжо раней пазьбіраў яйкі й аднёс у "сельпо" за падатак. Мне радзьва жадалася зьесьці хоць-бы адно яйка. І я аднойчы вымеркаваў лішняе. У іржавай бляшанцы сьпёк яго, схаваўшыся ў яме, дзе калісьці лавілі на падманку рысяў і ваўкоў. Цяпер там, у яме, зусім спрытна лазіць і бегаць навакол асунутых ападзінаў. Рысі больш не падыходзілі да сялібаў нашай вёскі, і ваўкі вылі ў студзёні дзесьці далёка ў дзяржаўным заказьніку.

Пасьля пачастунку яйкам у мяне балеў жывот. Я чуўся вінным перад мамай. Ня йшоў на спатканьне зь сябрамі... Прызнаўся маме.

– Учора бачыў, як шашок смактаў яйка.
– Іншым разам спалохай яго,– параіла мама.

Я усьцешыўся маёй хлусьнёй. Віна звалілася. Ад сумленьня чыстага навет прынёс дроваў да прыпечку.

– Лета цяпер, ня трэба несьці да хаты.
– Добра – ня буду, мама.

Заўтра сыбота. Я памыю хату, але маме пра гэта не кажу. Яна ведае – цягаць ваду із студні небясьпечна мне.

– Бо-ж ня вельмі перарос брата свайго,– дакарала мама, калі захоўваўся да яго кепліва. Але паўвядра вады я магу прынесьці да хаты, а брат і гэтага ня зрушыць зь месца. Я маю дазнаньне: не аднойчы выклікаў яго на гэтую працу, калі быў гультаяваты я. Тады мама заступалася – памагала яму несьці. Я неспакмеўна пазіраў у ейныя вочы. Усьміхаўся. Бач, мяне не абхлусіце.

Пайшоў да цёткі. Яна жыла асобна ў невялікай хаце. Валасы ў яе шызыя, як у галуба пер'е. У ейным гародзе заўсёды ёсьць гуркі ўлетку, і яна заўсёды ўлетку корміць нас. Неяк абыйсьціся яе. Напаткае мяне з братам. Пацалуе абодвых і павядзе да хаты. Тую самую страву давала, што й мама, але ейная была смачная. Навет братавы недаедкі зьядаў я.

– Вы найпрыгажэйшая,– пачуў я ў цётчынай хаце ад мужчыны, што ніколі раней ня жыў у нашай вёсцы. Ён пацалаваў цётку. Яна стаяла плячмі да мяне. Я неспакмеўна(мой прызвычай) падагнуў калены, падпёр імі падбародыч, пазіраў на цётку.

Пайшоў дождж. Я ня мог ісьці дадому. Дажджыны хлёсталі ў шыбіны, плёхаліся ў лужынах на панадворку.

– І трэба-ж прыдумаць нашаму народу,– казаў незнаёмы мужчына,– каб у кажнай песьні й прымаўцы былі спадзевы, навет дзеі наўперад весьцілі...

Ён гаварыў шмат пра песьні. Я шмат што разумеў і запамятаў зь ягонай гутаркі. Я ведаў адно, што цётка ўмела сьпяваць, прыгожа сьпяваць, давала параду на кажную зачопу ў вёсцы ці ў суседзкіх сёлах. Аднак, чаму ён запісваў у вялікі сшытак усё, што казала цётка, я аніяк ня кеміў.

– Можа гарбаты вып'ем,– сказала цётка да незнаёмага, і вось тады я ня сьцерпеў, выбег зь ейнай хаты.

Пакуль бег пад дажджом, мяне сьцігаваў асяглівы водар вопраткі незнаёмага мужчыны. Ягоная гутарка, бубністая, настырлівая гучэла пад плёханьнем маіх босых ступнёў па размоклай пяшчанай вуліцы. Я ўяўляў цётку ня цёткай больш, а вышчаранай шыбінай у нашым сьвірне.

– Цётка добрая, хай раз пашчасьціць ёй. Яна шмат бяды перамела,– на ўсе мае навіны пра цётку толькі й адказала гэтак мама.

Я сядзеў каля вакна. Дождж спыніўся. Ластаўкі лёталі нізка над вуліцай, над гародам. На гняздзе, што на вяршаліне ліпы,клякталі часта буслы.Я думаў пра цётку. Было шкада й не шкада яе. Мама турбуецца пра ейную бяду, спачувае, быццам я й брат мой шчасьлівейшыя за цётку.

Ручаліны дажджавыя не адразу пасьцякалі да адолаў аселіцы. Брат з суседзкімі дзецьмі гаціў лужы на вуліцы, пушчаў у іх драўляныя трэскі, але я ня йшоў да іх. Думаў пра цётку. Мне жадалася зрабіць штосьці крыўднае незнаёмаму мужчыну й дакарыць цётку. І ніяк не дадумаўся.

Цікаўлівa пайшоў зноў да яе.

Яны былі на дварэ, сядзелі на лаўцы каля невялікай ляхі з краскамі паміж двух кустоў шыпшыны. У цёткі на панадворку быў заўсёды дагодны парадак. Яна любіла расьціць гародніну й краскі, іншай хатняй жывёлай не заводзілася.

*( Працяг на 3-яй бал. вокладкі )*

**Зь лістоў у рэдакцыю:**

## АБСТАВІНЫ СЬМЕРЦІ ЎЛАДЗІМЕРА ЖЫЛКІ

Паважаная Рэдакцыя!

Колькі год таму ваш часапіс даў мне магчымасьць надрукаваць успамін пра нашага таленавітага паэту Ўладзімера Жылку, зь якім мне давялося дзяліць нялёгкую долю катаржніка савецкае ўлады ды ведаць абставіны ягоных апошніх гадоў жыцьця.1/

Нядаўна я прачытаў у газэце "Літаратура і Мастацтва" (22 лютага 1966 г.) у рэцэнзіі Арсеня Ліса на кніжку Ўладзімера Калесьніка "Іскры з вогнішча" наступнае:

"Пераканаўча прагучэла водпаведзь савецкага літаратуразнаўца буржуазна-нацыяналістычным пісакам за мяжой, якія ў часе вайны (ды й цяпер) не перастаюць у сваіх брудных мэтах чапляцца за імя паэты (г.зн. Уладзімера Жылкі – *Я.К.*), творчасьць якога можа належаць толькі народу."

Пра Жылку – гэта ўжо ня першы раз у савецкім друку. Летась таксама ў тэй-жа "Літаратуры і Мастацтве" зьявіўся быў артыкул, прысьвечаны памяці паэты. У артыкуле непраўдзіва былі насьветленыя апошнія жахлівыя дні Жылкавага жыцьця. Уважаю за свой абавязак выказацца ў гэтай справе.

Леташні артыкул пра Жылку быў падпісаны ведамым беларускім паэтам, таксама маім знаёмым і суканвойнікам на даўгіх этапах ад Менску да сібірскага выгнаньня, Уладзімерам Дубоўкам. У артыкуле хвальшыва кажацца, што Дубоўка, будучы на ссылцы, знаходзіўся ў Яранску "кіляметраў за дваццаць" ад Жылкі. Гэта вялікі ляпсус, бо навет па простай лініі Яранск ад Уржуму, дзе трымалі Жылку, ляжыць на воддалі кіляметраў каля 120, а па вяцкіх дарогах – кіляметраў 150-170. Гэта ня істотная для гэнага артыкулу дэталь, але яна кідае цень недаверу што да аўтарства артыкулу. Больш істотнае затое зьдзекьлівае цьверджаньне ў артыкуле, што Жылка быццамбы быў вызвалены спад нагляду НКВД. Гэта хлусьня. Толькі пасьля Жылкавае сьмерці на ягоны адрыс прыйшоў з НКВД дазвол паэту зьмяніць месца ссылкі. На ўсе-ж захады Жылкавых сяброў за жыцьцём паэты зволніць яго ад абавязку штомесячных рэгістрацыяў у НКВД ды дазволіць зьмяніць месца жыхарства, савецкая ўлада адмаўляла.

Як жыў Уладзімер Жылка ў Уржуме? Леташні лімаўскі артыкул малюе гэтае жыцьцё ў магчымых, ніштаватых хварбах. І гэта насьмешка – ня толькі над Жылкам, але над усімі Беларусамі-выгнаньнікамі савецкіх ссылак. На апісаньне Жылкавага жыцьця я знаходжу толькі адно слова – ЖУДАСНА! Паэта, будучы хворым, ня мог працаваць, каб аплаціць кватэру й апал. Жыў ён на ўскраі Уржуму ў нейкай закінутай хібарцы, часта ўзімку няпаленай. У тым-жа горадзе жыў тады й іншы беларускі палітычны нявольнік – настаўнік Сасіновіч із Случчыны. Незадоўга перад сваёй сьмерцяй, на нашыя просьбы, Жылка згадзіўся перайсьці жыць да Сасіновіча. Сасіновіч колькі разоў зварачаўся да мясцовых уладаў, каб пакласьці Жылку ў які-небудзь шпіталь, ці хоць фэльчарскі пункт, але ўрадаўнікі адмаўляліся, спасылаючыся на параграф пра "ворагаў народу".

Пад весну 1933 году Жылка зьлёг зусім, і было відавочна, што набліжаецца канец.

Калі Жылка памёр, дык на кватэру прыйшоў доктар з энкавэдыстым, каб сьцьвердзіць, што сьмерць запраўдная. Пасьля гэтага міліцыя прыслала двух магільшчыкаў. Яны там-жа ў кватэры зьбілі з аполкаў дамавіну, і на другі дзень Сасіновіч правёў нябожчыка на могілкі. Магільшчыкі, засыпаўшы магілу, пачалі зраўноўваць яе зь зямлёй – гэтага вымагала ад іх улада, каб не заставаліся на твары зямлі сьляды ейнае злачыннае існасьці. Сасіновіч аднак даў магільшчыкам на пару літраў гарэлкі, і яны пакінулі бугарок. Яны зазначылі аднак, каб ніякіх апазнавальных знакоў над магілай не рабіць і каб не надумаліся паставіць крыж на магіле. Ніякіх запісаў у магільнікавы рэестар не рабілася. Таксама было забаронена паведамляць пра Жылкаву сьмерць.

Я даведаўся пра гэта праз спэцыяльнага пасланца, празь якога дастаў і апошні паэтаў твор – "Тэстамэнт".

Гэткім у запраўднасьці быў канец жыцьцёвага шляху Уладзімера Жылкі.

Тое, што артыкул быў падпісаны чалавекам, які сам быў выгнаньнікам, Уладзімерам Дубоўкам – не навіна ў савецкай рэчаіснасьці. Там людзей ня толькі ломяць і нішчаць, але наўзьверх гэтага змушаюць яшчэ выбельваць савецкія злачынствы.

*Яўхім Кіпель*

А каб ні злодзей, ні тыран,
Ні чалавек ліхі, праклятых,
Ня скралі волі і ў зман
Не завялі сьляпыя хаты, –
На варце стаўлю гнеў зацяты
Тваіх работнікаў, сялян.
Калі між імі будзе еднасьць –
Ліхое зьгіне у бясьсьледнасьць.

*Ул. Жылка, "Тэстамэнт".*

1/ Глядзі *"Беларуская Моладзь"* № 13, 1962 г.



**Letter to the Editor:**

*Raisa Stankievic*, a former member of the New York branch of BYAA, has recently graduated from St. Theresa College in Winona, Minnesota. She is now employed as a research chemist with the Mayo Clinic (Rochester, Minnesota). We are reprinting an excerpt from her letter to the Editor, in which Raisa relates some of the experiences of her college years:

"I once was asked to speak about Byelorussian Christmas dishes and customs. I knew very little about them at first, but I found out all I could and gave my speech. I was always ready to defend Byelorussia in every discussion where it came up.

However, the greatest experience I had was teaching two Byelorussian folkdances to a group of American girls. Their enthusiasm and the hard work they put in were amazing. At first they knew nothing about Byelorussian folk dancing, but all of them did their best to represent Byelorussia among other nations at the show that was being presented. I must say that our performance was excellent and all of us felt that the hard work that we had done was worthwhile. I think that other Byelorussians should do things like this because it was a fine opportunity to acquaint our friends with our folk art, our beautiful dances and our colorful costumes. I know that these girls and many more of their friends will know what to say if somebody says that the Soviet Union is entirely Russia.

However, college is not the only place for such activity. We should constantly remind the people we know of our national origin. It is our responsibility, because if we do not do it, nobody will and that would be unjust to our parents who brought us up to be proud of our country and our culture. We would also do an injustice to those who have died to make the name *"Bielarus"* survive through the centuries. At the same time, however, we should also be loyal Americans, proud of this great country without forgetting the land that shaped our thoughts through the love of our parents and dear ones.

*Raisa Stankievic* "

# ХРОНІКА

## Саўт Рывэр, ( Ню Джэрзі )

– Звычаем мінулых гадоў Саюз Беларуска-Амэрыканскае Моладзі зладзіў у залі Шакаў вясёлую сустрэчу Новага, 1966 Году. Заля была перапоўнена – да танцаў іграла беларуская аркестра братоў Альхоўскіх.

– 16 студзеня ў залі Шакаў была зладжана "Ялінка" для беларускіх дзяцей. Мастацкая частка была падрыхтаваная вучнямі парахвіяльнае школы пры царкве Сьв. Эўфрасіні. Надзвычай багатая праграма праводзілася настаўнікам школы, сп.*М.Бахарам*. Дэклямацыі вершаў перапляталіся сьпевам беларускіх калядак у выкананьні школьнага хору пад кіраўніцтвам сп.*Ю.Рымка* й пры акампаньямэнце на піяніне вучаніцы *Леанілы Цярпіцкай*. Танцавальная група пад кіраўніцтвам сп-ні *Валентыны Камянковай* пратанцавала "Лявоніху" й "Польку Янку" пад ігру на акардыёне вучаніцы *Іры Касьцюк*. Салёвы танец выканала *Іра Занкавіч*. Пасьля мастацкае часткі Дзед Мароз раздаваў дзецям сьвяточныя падаркі, а царкоўнае сястрыцтва зладзіла пачастунак. На заканчэньне дзеці гулялі навокал Ялінкі ў розныя гульні.



*Сьв.пам.Тамара Туханецкая(Петыш)*

– 24 студзеня нечакана й так прадчасна, усяго маючы 36 год, адыйшла ад нас *Тамара Туханецкая(Петыш)*, асіраціўшы дачушку Нэлю, сынка Міхася, пакінуўшы ў глыбокім суме мужа Міхася, сястру Зіну, братоў Уладзімера й Генадзя. Яшчэ так нядаўна, бо ўсяго пару тыдняў таму Тамара, як заўсёды, памагала ладзіць сустрэчу Новага Году, а 27 студзеня, пасьля Сьвятое Літургіі й Паніхіды ў царкве Сьв. Эўфрасіні, вялікая грамада яе сяброўак, сяброў і старэйшага грамадзтва аддавала ёй апошнюю пашану, праводзячы на Беларускія Могілкі ў Саўт Рывэры.

– Былыя вучні беларускіх школаў ангельскае зоны Нямеччыны(Ватэнштэдт, Гановэр, Госьляр) выражаюць сваё шчырае спачуваньне свайму школьнаму інспэктару й настаўніку, сп.*М.Васілеўскаму*, з прычыны сьмерці ягонае жонкі, сп-ні Аўгеньні 2 лютага 1966 г. у Філядэльфіі.

– 28 лютага памерла й пахавана на Беларускіх Могілках у Саўт Рывэры сьв.пам. *Галена Палюховіч*, маці сябры Рэдакцыйнае Калегіі часапісу "БМ" і Саюзу Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, *Міхася Палюховіча*, у сувязі з чым сябры Рэдакцыйнае Калегіі і СБАМ выражаюць найглыбейшае спачуваньне сябру Міхасю, бацьку Максіму, сёстрам і братом.

## Беларуская моладзь Саўт Рывэру ў войску – на зямлі й на моры



– *Мікалай Буглай*(пасярэдзіне), сын ведамага беларускага вайсковага дзеяча падпалкоўніка Аляксандра Буглая, атрымаў 2-га лютага рангу старшага лейтэнанта – у Форт Эрўін, Каліфорнія.

* * * *

– *Аляксей Астапенка* бярэ ўдзел у *Operation Deep Freeze 66* у Антарктыцы. Ён будуе шпіталь і новую сыстэму салодкае вады для амэрыканскіх навукоўцаў і жаўнераў. Аляксей належыць да будаўнічых аддзелаў– *"Navy Seabees"*

– 26 лютага Амэрыканскія Прыхільнікі Антыбальшавіцкага Блёку Народаў ладзілі ў залі Інстытуту Модаў у Ню Ёрку фальклерны фэстываль народаў з-за зялезнае заслоны. Пасьля параду сьцягоў беларускі жаночы хор *"Каліна"* з Саўт Рывэру, пад кіраўніцтвам камп.К. Барысаўца, пачаў праграму вечара, выконваючы амэрыканскі гімн і восем беларускіх песень пад гучныя воплескі прысутных.

### New Jersey Branch of BYAA

– The annual elections were held on November 20, 1965 in the parish hall of the St.Mary of Zyrovicy church in Highland Park, N.J. Those elected to offices were:
*Anna Chorowiec* – President,
*Alla Losik* – Secretary,
*Mike Karanieuski* – Treasurer.

– The dance given on November 27, 1965 by our organization in Liberty Ballroom in South River turned out to be fun, even though many of the expected people failed to come.

– On Saturday, January 8, our group went Christmas caroling. Later that night we were treated to pizza and anything else we wished. The treasury of the branch reports a gain of $102.

– On January 9, we performed at the Annual Christmas Show held in the St.Mary of Zyrovicy church. In addition to singing our Christmas carols, we put on a Nativity Scene, which was enjoyed immensely by the spectators. All members are grateful to *Alina Lysiuk* for organizing the necessary material and making the costumes.

CAST:

Mary – Anna Chorowiec
Joseph – Gene Lysiuk
King Herod – Alex Stahanovich
Three Kings – Nick Schwed
– Helen Kazura
– Alex Chorowiec
Shepherd – Tamara Stahanovich
Angel – Alla Losik
Narrator, Producer, Director and Writer – Alina Lysiuk.

## 25 Сакавіка ў Ню Ёрку й Вашынгтоне.

Беларусы Ню Ёрку й сумежных мясцовасьцяў(Ню Джэрзі, Конэтыкат, Пэнсыльванія, Дэлявэр) урачыста адзначылі Дзень Незалежнасьці Беларусі ў месьце Ню Ёрку. Былі зладжаныя акадэміі ў гатэлях Астор і Більтмор.

З галоўнымі прамовамі выступалі кангрэсманы *Гальпэрн*(зь Ню Ёрку) і *Крэбс*(зь Ню Джэрзі). Былі атрыманыя праклямацыі – абвешчаньні Беларускага Дня Незалежнасьці ад губэрнатараў Ню Ёрку, Ню Джэрзі й Пэнсыльваніі, а таксама ад мэраў местаў: Ню Ёрку, Філядэльфіі й Пасэйку.

На ўрачыстасьцях былі прысутныя дзесяткі прадстаўнікоў ад іншых нацыянальнасьцяў, ад амэрыканскіх вэтэранаў, навуковых таварыстваў ды ад арганізацыяў амэрыканскае моладзі.

Госьці мелі нагоду пачуць беларускія песьні ў выкананьні ведамага беларускага жаночага хору *"Каліна"* із Саўт Рывэр, Ню Джэрзі, пабачыць беларускія народныя танцы ў выкананьні танцавальнага гуртка ЗБМА ды выступленьні вучняў беларускіх школаў.

З прыемнасьцяй трэба адзначыць удзел малодшага пакаленьня у ўрачыстасьцях. Вядучы рэфэрат на тэму 25 сакавіка на акадэміі ў гатэлі Астор прачытаў сябра ЗБМА, *Аўген Дубовік*. .

Беларуская дэлегацыя ў Вашынгтоне была прынятая віцэ-прэзыдэнтам ЗША, *Гамфры* й кіраўнікамі дэмакратычнай і рэспубліканскай фракцыяў Сэнату – сэнатарамі *Мэнсфільдам і Дэрксэнам*.

Перад паседжаньнем Сэнату была прачытаная малітва з нагоды Беларускага Дня Незалежнасьці.

Сэнатар Дэрксэн прачытаў прамову на тэму 25 сакавіка, якую прыгатаваў няпрысутны сэнатар *Джэвітс*(зь Ню Ёрку).

## ЦЁТКА ...

*( Працяг з бал. 9 )*

Яны не спакмелі мяне. Цётка сядзела паўбокам да незнаёмага. Рукі на прыпале ляжаць нахрастам. Незнаёмы не глядзіць на яе. Ягоны позірк дзесьці за штыкетнікам, за якім недалёка ўздымаўся ўзгорак зь некалькімі густымі хвоямі. Хвоі ледзь-ледзь зігацелі дажджавымі кроплямі. Над вышынёй узгорку падвячорныя прамяні сонца й вялікая хмара, яна быццам выдзьмухвалася хвоямі.

– У мяне працы хоць адбаўляй,– нарэшце я пачуў гутарку незнаёмага.

Я схаваўся за вуглом хаты.

– У мяне таксама. Я-ж мушу зарабляць працадні ў калгасе, каб жыць.

– Даражоная, ня віную цябе! Але чаго здавальняцца працай, якая табе не пад сілу. Падумай скончыць з гэтым, і мы кончым шчасьліва хоць-бы схон нашага жыцьця... Я шкадую цябе!

І незнаёмы глянуў на цётку. Яна таксама пачала глядзець на ўзгорак з хвойнікам.

– Ты ажно за колькі год адумаўся шкадаваць мяне.

– Усё, што здарылася паміж нас, было неразумнае. Я вінен, і крыху вінная ты. Абое ня прызвычаеныя думаць пра жыцьцё інакш.

– Ты баяўся цяжкасьцяў, а я не. Купіла сабе халупу гэтую, арала нівы, касіла сенажаці. Жыцьцё – ня месяц, узыйшоў і зайшоў...

– Я ведаю, ты была разважлівая, і ўсялякія пастановы рабіла разумна і, як памятаю, асьцярожліва.

– Калі ласка, не гавары пра гэта.

– Ня буду, дарагая! Ад сяньняшняга дня я не скажу табе ніводнага слова наўсуперак. Не сярдуй – прашу!

Маё сэрца чутна стукацела. Незнаёмы нахінуўся да цёткі, пацалаваў у шчачыну, а тады, памалу, вобмацна-люба, правёў даланямі па ейным абліччы.

– Не ўмаўляю цябе, а прашу: паедзем да мяне... Кончым кніжку тваіх песьняў і прымавак. Яна ўся напісаная з тваіх словаў і гутарак... Абяцаю нічога не гаварыць, не ўспамінаць зь мінулага. Я наўпраўду навучыўся кахаць цябе і шанаваць людзкія турботы й пакуты... Я зусім іншы цяпер, зусім іншы, даражоная!

Ён узноў утропіў позірк перш на цётку, а тады на краскі ўпобач.

Цётка адказала не адразу. Перабірала даланямі на прыпале адшчыкнуты лісток з куста шыпшыны.

– Але навошта ўсё на старасьць год?

– Я хачу пакараць сябе, і пакаральнікам будзь ты!

Цётчына далонь пахопна затуліла вочы. Ейныя плечы ўздрыгнуліся. Яна заплакала. Я схапіў вогкі камяк зямлі, шпурнуў на незнаёмага. Лучыў у цётку. Яна азірнулася, заплаканая.

– ... ты зноў прыйшоў?

Я падбег да незнаёмага, паказаў яму язык, знялусна зірнуў на цётку: сьлёзы градзістыя на шчоках паплылі ўскосіста – яна ўсьміхнулася мне. Ах гэтая, даражоная цётка! Навет плачучы яна можа ўсьміхацца.

Увесь абняты спачуваньнем ёй, я зноў сказаў маме, што надарылася бачыць. Я шукаў памачніка ў маме. Але яна пагладзіла шарахнявай далоняй маю галаву. Падхапіла й адным змахам паставіла мяне перад сабой на лаве.

– Калі будзеш плакаць – ня вырасьцеш... Ты яшчэ малы, не разумееш, а падрасьцеш – незаводна ўсё даведаешся... Зь цёткай усё добра.

Як надоўга, але я забываюся пра цётку. Я не магу пагадзіцца з мамай.

– Учора ты казала, што я вялікі, ужо ўмею чытаць, а сяньня – ты малы.

– Ты ня зусім малы, гэта праўда, але йдзі пасьпі – за ноч падрасьцеш: дзеці ўначы падростаюць.

Мама пачынае распранаць мяне. Супрацівіўся.

– Я магу сам, я не маленькі!

А мама зноў сваё.

– Не спрачайся з мамай. Ты памятаеш, твой тата шлейкі не насіў праз плячо, а дзягай падпяразваў нагавіцы. Вырасьцеш – і ты будзеш гэтак рабіць.

Я ўцьвелена хлопнуў па мамінай далані. Яна крыўдзіць мяне: ня хоча сказаць, што я вялікі.

– Вырасьцеш... вырасьцеш – апрыкаюся я. – Заўтра яйкаў здаваць не панясу. Хай сам Мікіта падаткі зьбірае...

Шлейку ад нагавіцаў-шаракоў мама ссунула з маіх узплеччаў. Уразілася тады: бадай косьці ў маю пастаць устаўляла – я чуў іхны касьцялявы гук пад ейнай даланёй.

– Не панясу яйкаў!

Пераступіў апалыя на лаву нагавіцы. Уздоўж лавы пайшоў да пасьцелі. На шчоках маіх яшчэ вагчэлі сьлёзы – абцёр іх правіцай.

– Ня губляй нагавіцаў – заўтра патрэбныя будуць.

Яна справілася пяшчотна пляснуць па маім целе. І далонь ейная была большая, чымся мая седалаўка. Адчыніла вакно й вытрасла нагавіцы мае й братавы.

– Яйкаў я не панясу. Хай кульгавы Мікіта зьбірае іх,– далей пагражаў я. Іншых словаў і думак ня было.

– Добра, сынку, сьпі – не панясеш. Трэба-ж і вам двум есьці – ты-ж худы, як лучына.

Мама пайшла да панадворку – загнала карову да хлеву. Колькі камароў закруцілася каля маіх аголеных ног і абліччя. Я заняўся імі – забіў іх. Калі апошняга прыхлопнуў на насе, мне зноў успомнілася цётка. Я можа малы. Я мушу верыць маме. Я быў уроўні зь ёй, і мае вочы глядзелі ажно ў ейныя толькі тады, калі яна паставіла мяне перад сабой на лаве А так з адолу я не заўсёды бачу, што яны ў мамы сьветлыя й з гэткім адсьветам, як у крыніцы на аселіцы – калі няма хмараў на небе, крыніца была азяровы скрылёк неба на зямлі – яна адсьвятляла мамінымі вачмі.

*( Працяг на адвароце )*

## ЦЁТКА...

*( Працяг з 3-яй бал. вокладкі )*

Я заснуў. Мне сьнілася цётка. Яна паклікала пайсьці зь ёй у лес. Я спрабаваў ідучы адрываць жытнёвыя каласы й кідаць іх на хмары. Яны лёталі разам з хмарамі. Здаралася, крыху палётаўшы, зачаплялі хмару і, хоць самі невялікія, сьцягвалі хмару на адол, на жытнёвыя ўсьцяжы.

–Не гняці дабро,– папрасіла цётка. І я паслухаўся ейнае просьбы. Паспрабаваў бегчы памацаць апалую хмару, але ніяк ня мог у часе дабегчы: хмара гублялася паміж каласоў.

– Ня руш іх – хай будзе сонца.

Я ўзяў цётку за руку. Яна глядзела перад сабой, быццам сьляпая. Перад гэтым увесь час яна казала мне казку, а я чамусьці ня прыслухваўся да яе.

– ... два лесасекі прыйшлі да вялізарных соснаў. Сонца захмурылася тады, пацямнела,– апавядала цётка.

Мы апынуліся зь ёй на паляне сярод бору. Я абняў камель сосны, але ён адразу вырас у маіх абоймах. Каб бачыць за таўшчэзнай іншыя дрэвы, трэба зусім нахінуцца ўсёй постацяй аж за камля. Я сеў. Асунуў ногі ў мяккі, цёплы мох.

– ... адзін зь лесасекаў,– далей апавядае цётка, – кажа другому: усё, што ў Моцы жыве й верыць, што будзе жыць, ніколі не папросіць аховы, а калі камусьці будзе патрэбная гэтая Моц і Дабро таго Жыцьця-Моцы, яно ня скорыцца на просьбы ды абяцаньні. Гэтую Моц трэба зьнішчыць дзеля свайго шчасьця. Вось і гэтыя моцныя, сабе-прыгожыя сосны ня прыйдуць, ня ўкленчаць перад табой – іх трэба сьсекчы, зьнішчыць.

Цётка не спадабалася мне. Я скрykваю супраціўна.

– Я-ж сяджу пад гэтымі соснамі, я люблю іх, мне добра каля іх. Пакуль сосны сьсякуць, хай паспрабуюць мяне сьсекчы. Мае косьці, як камень! Усе сякеры вышчарбяцца. Я не маленькі ўжо.

– Ты й напраўду немаленькі,– адказвае цётка. Яна стаіць перада мной, і ейныя вочы, здаецца, маміны вочы. Я пачаў меркаваць, ад чаго пачаць, каб застацца ўдзячным цётцы. Было шкада, што ўкінуў Хведаравых дваццаць капеек у вір, іх мог аддаць цётцы, можа-б яны спатрэбіліся ёй аплаціць падатак таксама. Але зьяўляецца незнаёмы мужчына. Той мужчына, што прыехаў да цёткі. Я абурліва крычу яму: – Прэч адгэтуль!

Я разбудзіўся. Мама стаяла ўпобач і памагала мне перalegчы на другі бок.

–Днём накрычышся – а цяпер сьпі,– раіла яна.

Я ня спаў аж да сьвітанку. Я ўсё думаў, як прагнаць незнаёмага ад цёткі.

*1962.*

## МОЙ КРАЙ

*Калышацца сінью, як мора*
*празрысты крышталь – кругазор.*
*І вокам яго не акінуць...*
*За горкаю ўзгорак,*
*узгорак...*
*Гасьцінцы, палі, цёмны бор, –*
*далёка пад небам дзесь гінуць*
*загоны, загоны*
*бясконца...*
*Залоцяцца нівы ў сонцы*
*засеяны дбайнай рукой...*
*Пракормяць мільлёны*
*і родны край мой.*
*Гляджу я на родныя гоні*
*і штосьці пяшчотамі маці*
*хапае за сэрца – шчасьліва!*
*Эх, ясныя далі, абняць я*
*вас хочу і нівау прылівы –*
*моцна, упойна...*
*Я чую ў вас праўду, жыцьцё –*
*хлебаробныя, жытнія далі!*
*А ў думках маіх неспакойна...*
*Пакінуць вас ? Не. Пачуцьцем*
*са сталі*
*я зьвязаны з вамі і вас,*
*колькі хопіць мне сілы,*
*я стальлю,*
*крывёю –*
*у люты, мяцелічны час*
*пайду бараніць,*
*каб жыць!*
*Каб ты жыў, чароўны і мілы*
*Хлебаробны край мой.*

*М. Лісток*

Верш гэты быў упяршыню друкаваны ў часапісе "Покліч", які выходзіў пры Беларускай Настаўніцкай Сэмінарыі ў Наваградку.

Беларуская Настаўніцкая Сэмінарыя была заснаваная ў 1941 годзе ўвосені, і пратрывала да лета 1944 году. У Сэмінарыі было прыблізна 800 студэнтаў і студэнтак ( 7 групаў першага курсу, 8 групаў другога курсу, 2 групы трэйцяга курсу і адна група чацьвертага курсу – такі быў склад улетку 1944 г).

*Printed by: PAHONIA Printing Corp. – 230 Springfield Ave., Rutherford, N.J.*